СВАБОДА
1 верасьня 1995 г.
№35
Кошт свабодны



# Верасень абяцае быць гарачым

**Віталь Цыганкоў: Чым больш можна „ім", тым менш можна народу** *стар. 2*

**Нямецкае сьмецьце карыстаецца ў нас попытам** *стар. 4*

**Алег Грузьдзіловіч: Будучыня належыць незадаволеным** *стар. 4*

**Сяргей Дубавец: У Беларусі адбываецца ня толькі зьмена кіруючых элітаў, але і фармуецца зусім іншы тып улады** *стар. 6*

## Арыштавалі прафсаюзны рахунак

**Улады арыштавалі банкаўскі рахунак Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП), у які ўваходзяць шахцёры "Беларуськалія" і іншыя працаўнікі Салігорска.**

Пра гэта паведаміў старшыня БНП Віктар Бабаед. "Гэта дзяржаўны бандытызм, — лічыць ён. — Рахунак арыштаваны без усялякіх падставаў і тлумачэньняў. Напэўна, улады хочуць такім чынам запалохаць нас і прыкрыць дзейнасьць усіх непадкантрольных ім прафсаюзаў".

Віктар Бабаед таксама сказаў, што ў гарадзкі аддзел КДБ быў выкліканы "для гутаркі" старшыня салігорскай прафсаюзнай суполкі транспартнікаў Мікалай Дзяленьдзік. "Запрашэньне" паступіла пасьля таго, як транспартнікі прынялі рашэньне правесьці папераджальны страйк у выпадку, калі адміністрацыя будзе працягваць парушэньне калектыўнай дамовы.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Сацыял-дэмакраты заяўляюць...

**"Нішто ня можа апраўдаць рэпрэсіі ўладаў у адносінах да рабочых і прафсаюзных актывістаў", — гаворыцца ў заяве Сацыял-дэмакратычнага саюза, прынятай у сувязі з рэакцыяй уладаў на забастоўку ў Менскім мэтро.**

Гэтыя "сілавыя захады" СДС лічыць парушэньнем правоў чалавека.

*БелаПАН*

## Пракурор пажартаваў?

**Цікавае паведамленьне прагучала ў мінулую сераду на паседжаньні прэзідыума Вярхоўнага Савету.**

Член прэзідыума Уладзімер Новік, гаворачы аб неабходнасьці захаваньня законнасьці ў краіне, сказаў, у прыватнасьці, што першы намесьнік Генэральнага пракурора Уладзімер Кандрацьеў заявіў дэпутату Піскарову літаральна наступнае: "Хутка вас усіх перасаджаюць".

Прысутны на паседжаньні в.а.Генэральнага пракурора Васіль Капітан ніяк не адрэагаваў на гэтае паведамленьне дэпутата Новіка.

**М.Г.**

## СПБ мае прэтэнзіі

**Магілёўская абласная арганізацыя Свабоднага прафсаюза Беларусі вырашыла пачаць калектыўныя працоўныя спрэчкі на ўсіх прадпрыемствах вобласьці, дзе ёсьць арганізацыі СПБ, калі адміністрацыя гэтых прадпрыемстваў хоць у нечым парушае калектыўныя дамовы.**

Апроч таго, з 28 жніўня прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза пачалі пікетаваньне гэтых прадпрыемстваў.

*СІМ*

## Мітынг на аўтазаводзе ў Магілёве

**На Магілёўскім аўтазаводзе адбыўся мітынг, у якім удзельнічала каля паўтысячы чалавек.**

Рабочыя пратэставалі супраць рэпрэсіяў, якія ўлады распачалі ў дачыненьні да ўдзельнікаў страйку Менскага мэтрапалітэну. Яны патрабавалі таксама своечасовай выплаты заробку.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Едуць туды, дзе плоцяць грошы

**820 грамадзянаў Беларусі выехалі сёлета на працу за мяжу па афіцыйнай дамоўленасьці. Пра гэта нам паведамілі ў Міністэрстве працы.**

Беларуская рабочая сіла пераважна выпраўляецца ў Расею і Польшчу, каля 50 чалавек выехалі ў Чэхію і Славакію. Большасьць нашых суайчыньнікаў працуе на будоўлях і ў сельскай гаспадарцы. Чацьвёра дзяўчат наняліся працаваць гувэрнанткамі ў Нямеччыне. У заходніх краінах атрымаць кваліфікаваную працу (з адпаведным заробкам) нашым людзям складана, бо ня ўсюды прызнаюцца савецкія дыпломы.

**А.Д.**

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

## Сёлета ў школах будуць вывучаць беларускую гісторыю. Але ўжо рыхтуецца гісторыя БАЦЬКАўшчыны




**Навіну пра тое, што прэзідэнт Беларусі зьбіраецца вярнуць у школы савецкія падручнікі, перадалі ўсе сусьветныя агенцтвы. Цяпер жа, калі Лукашэнка вырашыў часова адступіць ад рэалізацыі ідэі, гэтае паведамленьне ўжо мала каго цікавіла. Вось калі наш "бацька" раптам сам возьмецца пісаць падручнік — гэта зноў стане сэнсацыяй. Пачакаем.**

**А пакуль у школах дазволена вывучаць "крамольную" гісторыю.**

# Крэдыт stand-by — пакуль бай-бай

**Спроба Беларусі атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду 280-мільённы крэдыт stand-by доўжыцца ад пачатку года.**

Першую адмову наша краіна атрымала ў красавіку, калі ня выканала большасьць патрабаваньняў МВФ. З таго часу беларускі ўрад правёў тытанічную працу па "дагонцы" эканамічных паказнікаў. У тры разы былі падвышаныя кошты на жыльлё і камунальныя паслугі, "адобрана" новая праграма прыватызацыі — але ўсё гэта, па традыцыі, засталося толькі "на паперы". Апошнім гераічным учынкам стала рэабілітацыя прыпыненых яшчэ ў красавіку спэцыялізаваных інвэстфондаў.

Перад паседжаньнем Рады дырэктараў МВФ ад імя прэс-службы Кабінэта міністраў ва ўсіх афіцыйных газэтах быў распаўсюджаны артыкул, у якім выказвалася цьвёрдае спадзяваньне на атрыманьне крэдыту. У Вашынгтон па грошы накіраваліся старшыня Нацыянальнага банку С.Багданкевіч і віцэ-прэм'ер М.Мясьнікові́ч. Аднак за акіянам іх чакала горкае расчараваньне — канчатковы разгляд пытаньня адкладзены на 12 верасьня.

На сваёй прэс-канфэрэнцыі С.Багданкевіч прызнаўся, што яшчэ за суткі да абмеркаваньня Фонд планаваў прыняць станоўчае рашэньне. Але на наступны дзень нечакана знайшоўся матыў для адмовы — пэўныя хібы ў паказьніку "грашовая база", — паказьніку, які, паводле словаў сп.Багданкевіча, "выеденного яйца не стоит". "Гэта дэманструе вялікі недавер МВФ да Беларусі", — канстатаваў старшыня Нацбанку. Акрамя таго, вылучаны новыя патрабаваньні да беларускага ўраду: павялічыць курс даляра, давесьці да 80% аплату жыльля і камунальных паслугаў і ў тэрміновым парадку пачаць выплаты датацыяў маламаёмасным грамадзянам.

Натуральна, што ні Багданкевіч, ні прадстаўніцтва МВФ на Беларусі, ні Кабінэт міністраў не пацьвярджаюць зьвесткі аб палітычных матывах чарговага пераносу тэрміну выдачы крэдыту. Аднак для высокіх чыноўнікаў менавіта такая прычына выглядае амаль бясспрэчнай. "Узбэкістану і Таджыкістану даюць, Расеі, якая вае — даюць, а Беларусі з-за нейкага страйку не далі", — абураўся ў размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ адзін з высокапастаўленых чыноўнікаў прэзідэнцкае адміністрацыі.

Калі гэта так, то заходніх фінансістаў можна зразумець. Навошта даваць грошы рэжыму, які парушае правы чалавека і хуткім крокам ідзе да таталітарызму. А таталітарныя краіны, як вядома, менш за ўсё схільныя аддаваць пазыкі. Ды урэшце, амэрыканцы, якія маюць сур'ёзны ўплыў у МВФ, ня могуць быць людзьмі бяз гонару: калі Лукашэнка бясконца абвінавачвае іх у дэстабілізацыі становішча на Беларусі ды іншых сьмяротных грахох — гэта можа надакучыць.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Ісламскія браты прыязджалі глядзець зброю

**З 22 па 28 жніўня ў Менску знаходзілася афіцыйная дэлегацыя Міністэрства абароны Ісламскай Рэспублікі Іран, якая вяла перамовы з беларускім вайсковым ведамствам аб пашырэньні супрацоўніцтва.**

Іранскі бок у першую чаргу зацікавіўся магчымасьцямі Беларусі па мадэрнізацыі танкаў Т-55 да больш сучаснага варыянту Т-72. Адначасова азіяцкія партнэры выказалі гатоўнасьць закупіць камплектуючыя дэталі для бронетанкавай тэхнікі, сродкаў узбраеньня, боеприпасаў. Падчас знаходжаньня ў Беларусі дэлегацыя наведала танка-рамонтны завод у Барысаве, вытворчае аб'яднаньне "БелОМО", Менскі трактарны і электрамэханічны заводы, а таксама прадпрыемства па вырабу абсталяваньня для армейскіх палігонаў.

*СІМ*

# Чым больш можна „ім“, тым менш дазваляецца народу

**Сярэдні абывацель, гэтак званы “просты чалавек”, ня вельмі жадае чуць высокія словы. Ён інстынктыўна цураецца гучных вызначэньняў накшталт “дыктатура”, “хунта”, “банда” і гэтак далей. “Якая на халеру дыктатура? — разгублена думае звычайны грамадзянін. — Нікога, здаецца, не забіваюць, газэты выходзяць, за мяжу людзі яшчэ езьдзяць. Ну, пакалацілі там дэпутатаў, паарыштоўвалі прафсаюзных зачыншчыкаў — дык то ж “за дзела”. Але ж я тут ні пры чым.”**

Аднак аказацца зусім “ні пры чым” не атрымліваецца. Дыктатура — гэта такая зьвяа, якая можа існаваць толькі коштам пастаяннага пашырэньня сваіх апэтытаў, паглынаньня новых ахвяраў дзеля сілкаваньня сваёй энэргіі. Гісторыя нашага стагодзьдзя дае красамоўныя прыклады няўдалых спробаў “задобрыць” дыктатараў маленькімі ўступкамі. Не атрымлівалася. Прага абсалютнай улады над усім існым захліствае таталітарныя рэжымы, зьнішчае ня толькі мараль, але нават логіку ў іхных дзеяньнях.

На Беларусі пакуль не забіваюць. Але нас ужо прывучылі нічому не зьдзіўляцца — ні парушэньням законаў ды Канстытуцыі, ні самай невераҗоднай, пячорнай хлусьні. Здаецца, большасьць народу ўжо гатовая пафасна прадэкламаваць: “Мы так вам верылі, таварыш Замяталін, як, можа быць, ня верылі сабе”. Кожны новы канфліктны ход уладаў — гэта па сутнасьці беспрэцэдэнтнае пашырэньне для сябе мяжы дазволенага, пашырэньне сваіх “правоў” за кошт грамадзтва. Інакш кажучы, чым больш можна “ім” — тым менш “можна” застаецца для ўсіх астатніх.

Вызначэньне “дыктатура” для цяперашняй беларускай палітычнай рэчаіснасьці не зьяўляецца якім-небудзь гістэрычным перабольшваньнем. На вуліцах горада ўдзень без усялякіх санкцыяў арыштоўваюць прафсаюзных актывістаў, дэпутатам гарадзкога і Вярхоўнага Савету настойліва прапануюць “паразмаўляць” у міліцыі, і...людзі зьнікаюць. Потым жонцы Антончыка паведамляюць, што яго “ўжо адпусьцілі” (як бы гаворыць: “калі ён ня знойдзецца, мы не вінаватыя”), і яшчэ суткі трымаюць пад вартай. Потым адбываюцца “суды” без удзелу сьведкаў ад пацярпелага боку, а ў якасьці абвінаваўцы выступае міліцыя. З парушэньнем закону звальняюцца ўдзельнікі страйку, у штаб-кватэры прафсаюзаў адбываецца вобшук. І якая ж рэакцыя праваахоўнай сістэмы краіны на ўсё гэта? Вось што піша Юры Дракахруст у “Белорусской деловой газете”: “Аніводны пракурор ня выказаў заклапочанасьці альбо хаця б інтарэсу з нагоды таго, дзе знаходзяцца затрыманыя бяз санкцыі людзі. І судзьдзя не зацікаўіўся тым, куды ж пасьля паседжаньня адвозяць людзей, якія праходзяць па справе ў якасьці сьведкаў. І міліцыя была больш заклапочана тым, як сьпіхнуць з сябе адказнасьць, а ня тым, дзе знаходзяцца грамадзяне, затрыманыя людзьмі ў міліцэйскай форме... І справа тут не ў рэжыме сакрэтнасьці — прадстаўнікі праваахоўных органаў, не баючыся, адкрыта заяўлялі журналістам, што абараняць закон яны ня маюць намеру”.

Законы не выконваюцца, Канстытуцыя — пусты гук, правы чалавека растаптаныя, людзей на вуліцы кідаюць у “варанкі”. Калі гэта не дыктатура, то — што гэта?..

Магчыма, некаторыя нашы грамадзяне спадзяюцца на гэтак званы “просвещённый” абсалютызм, калі мудры правіцель выкарыстоўвае сваю поўную ўладу на карысьць усяго народу. Гісторыя і нават сучаснасьць (султан Брунэя) ведаюць такія прыклады. Рэч, аднак, у тым, што гарантам дзяржаўнай мудрасьці такога ўладара звычайна зьяўляецца манархічная форма праўленьня, калі асоба з дзіцячага ўзросту лепшымі настаўнікамі і ў лепшых сусьветных унівэрсітэтах рыхтуецца да кіраваньня краінай. І ня трэба змагацца за ўладу — бо яна дадзеная ад нараджэньня.

Відавочна, такі варыянт Беларусі пагражае менш за ўсё. Наш “дэмакратычна абраны” правіцель найбольш адпавядае народнай прыказцы: “горшы пан — гэта калі з мужыкоў пан” (ці падобны адпаведнік па-расейску: “из грязи да в князи”). Ад пачуцьця ўласнай непаўнавартасьці яму паўсюдна мрояцца змовы, таму шукаюцца ўсё новыя ворагі — цяпер ужо і за межамі Беларусі. Адчуваньне ўласнай уседазволенасьці кружыць галаву, гэты чалавек ужо губляе пасьлядоўнасьць у сваіх выступленьнях, забывае, пра што гаварыў раней, бо ведае, што ніхто не асьмеліцца нагадаць яму пра былыя абяцаньні. Ён ужо ня ў стане адэкватна ацаніць наступствы сваіх прамоваў, што выдатна прадэманстравала гісторыя з крэдытам МВФ. Як трапна заўважыў у сваім вершы Рыгор Барадулін, засталося толькі дабіцца “права першай ночы”.

Так што дыктатура ў нас будзе самая прымітыўная, ахлакратычная (“ахлакратыя” — “улада натоўпу”), з агрэсіўным і самазадаволеным тварам, якую будзе стрымліваць толькі небясьпека міжнароднай фінансава-эканамічнай ізаляцыі. Яна пачне перамагаць нас паасобку, і цешыцца ад захапленьня гэтым працэсам. “Яны” цудоўна ведаюць псіхалогію чалавека, асабліва не самыя лепшыя ягоныя якасьці. Калі “выдалялі” з Вярхоўнага Савету дэпутатаў апазыцыі, Лукашэнка зрабіў астатніх парламэнтарыяў сваімі саўдзельнікамі, запрасіў іх стаць маральнымі сааўтарамі “перамогі”. Калі цяпер прэзідэнт захоча ўчыніць што-небудзь з астатнім Вярхоўным Саветам (не таму, што гэта пільна трэба, а проста так — “дзеля прафілактыкі”), то іх ужо ніхто не абароніць. Для дыктатуры яны — адпрацаваны матар'ял. Дыктатару не патрэбныя сябры і саюзьнікі, яму патрэбныя толькі паслухмяныя выканаўцы. Пры разгоне страйку мэтрапалітэнаўцаў улады пажадалі зрабіць сваімі саўдзельнікамі ўсіх жыхароў сталіцы, каб рабіць беззаконныя быццам не па сваёй волі, а “ад імя народа”.

Ня варта “простаму чалавеку” спадзявацца на тое, што ён тут “ні пры чым”. Калі ўлада пакарала тых, хто патрабаваў выкананьня законаў, калі ўжо пачынаюць змагацца з тымі, хто патрабуе своечасовай выплаты заробку, дзе гарантыя, што сам заробак не аб'явяць “экстрэмісцкім патрабаваньнем”?

Вядомая і нават банальная ўжо фраза, але варта яе нагадаць: “Калі яны прыйшлі за камуністамі, я маўчаў, бо я ня быў камуністам. Калі яны прыйшлі за габрэямі, я маўчаў, бо ня быў габрэем. Калі яны прыйшлі за каталікамі, я маўчаў... Але калі яны прыйшлі за мной, ужо не было нікога, хто бы мог за мяне заступіцца”.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Працуй, бяры, што даюць і маўчы

**За ўдзел у забастоўцы з Менскага мэтрапалітэну звольнена ўжо каля 50-ці машыністаў, сьлесараў, электрамэханікаў. Улады пагражаюць гэтак жа пакараць яшчэ каля 30-ці чалавек. Такім чынам яны мяркуюць вырашыць усе праблемы. Тым часам начальніка мэтрапалітэну чакае павышэньне, магчыма — праца ў гарвыканкаме.**

**Карэспандэнт СВАБОДЫ сустрэўся са звольненымі работнікамі мэтро. Вось што яны распавялі пра нядаўнія жнівеньскія падзеі.**

**Сяргей Раманчык, сьлесар:** Сілу, выкарыстаную супраць нас, я ўспрымаю як самадурства, тэрор уладаў. Мы знаходзіліся на сваім працоўным месцы ў дэпо, праводзілі канфэрэнцыю. Прыйшоў палкоўнік з АМОНам і запатрабаваў пакінуць памяшканьне. Мы спачатку адмовіліся, на што атрымалі новы ўльтыматум: “Вы будзеце выкінутыя”. Мы спыталі: “Як дэпутаты?” Палкоўнік адказаў: “Так, як дэпутаты”.

Калі назаўтра мы разыходзіліся ад штаб-кватэры Свабоднага прафсаюзу, на пр.Скарыны да нас пад'ехалі машыны, з якіх павыскоквалі спэцназаўцы. Яны сталі хапаць нас проста на вуліцы, аддаючы загады: ляжаць, трымаць рукі за галавой... Пры гэтым яны нават стралялі ў паветра. Мяне схапілі разам з Забаўскім і Макарчуком і прывезьлі ў вайсковую частку. Потым сталі па адным выклікаць на допыт. Мяне адвялі ў пакойчык два на два мэтры, далі матрац, пару прасьцінаў, прыставілі вартаўніка — ростам пад два мэтры, у забрале і поўным камуфляжы. У 23.15 зайшоў палкоўнік, папрасіў падпісаць паперу, што я ня маю прэтэнзій да вайсковай часткі. І адпусьцілі дахаты.

**Ігар Канавалаў, электрамэханік:** Разам са мной арыштавалі незнаёмых мне людзей, з якімі я размаўляў на плошчы Свабоды каля штаб-кватэры Свабоднага прафсаюзу. Праўда, неўзе каля абеду іх выпусьцілі. Аднаго машыніста дэпо арыштавалі разам з жонкай. Я чуў, што некаторых адпускалі дамоў, а потым зноў арыштоўвалі.

**С.Раманчык:** Ад аднаго міліцыянта я чуў, што на пасты ДАІ перадалі фотаздымкі: мой, Макарчука і Конаха. Было загадана затрымаць нас, нібы нейкіх злачынцаў. На лесьвічнай пляцоўцы каля маёй кватэры дзяжурылі двое. Хатнія тэлефоны адключаныя да гэтага часу.

**І.Канавалаў:** Такія беззаконныя дзеяньні ўладаў супраць нас выклікаюць толькі абурэньне. На ўласнай скуры давялося адчуць, што можа зрабіць прэзідэнт Лукашэнка. Гэта нагадвае 37-мы год. “Навіны” па тэлевізары немагчыма было слухаць. З нас зрабілі ворагаў народа, спрабавалі нацкаваць адных на другіх. З экрана не прагучала ні слова праўды. Гледачоў проста абдурвалі.

**Васіль Каркотка, машыніст-інструктар 1-га класа:** У сем'ях да гэтага часу баяцца новых рэпрэсіяў. Як толькі званок у дзьверы, адразу першая думка — можа прыйшлі? Гэтага баяцца больш за ўсё.

Большасьць звольненых маюць высокую кваліфікацыю, адпрацавалі ў мэтро па 11 гадоў. Цяпер, згодна з чыімсьці распараджэньнем, іх ня хочуць браць на працу ў іншых арганізацыях, дзе патрэбныя такія спэцыялісты. Прэзідэнт Лукашэнка дазволіў толькі “выпраўленчыя” работы ў калгасе. Атрымаўшы там станоўчую характарыстыку, былыя работнікі падземкі могуць працаваць па прафэсіі. “Калгасьнік па-калгаснаму думае”, — так ацаніў такую ініцыятыву прэзідэнта адзін з машыністаў.

Ці варта было страйкаваць, улічваючы такія наступствы?

**І.Канавалаў:** Непрыемна на душы з-за таго, што з намі так абыйшліся. Мы вымушаныя былі страйкаваць, бо так далей жыць немагчыма. Зарплаты і так не хапае, а калі яе затрымліваюць — хоць ідзі міластыню прасіць.

**С.Раманчык:** Зарплата машыніста з усімі даплатамі складала 2 мільёны 100 тысяч рублёў. У мінулым месяцы атрымалі каля 4-х мільёнаў, бо нам выплацілі грошы за тры месяцы. Прычым такі заробак быў толькі ў высокакваліфікаваных машыністаў, з вялікім стажам працы. Гэта добра, што страйкавалі, удалося разварушыць “асінае гняздо”.

А што думаюць звольненыя мэтрапалітэнаўцы пра тых машыністаў з Воршы і Баранавічаў, якія пагадзіліся заняць месцы страйкоўцаў?

**С.Раманчык:** Няхай гэтыя ўчынак застанецца на іхным сумленьні. Кожны з іх меў права адмовіцца. Я б не пайшоў на гэта нават пад прымусам. Да мяне падыходзілі хлопцы з Баранавічаў і расказвалі, як гэта ўсё адбывалася. Ім сказалі, што начальнік чыгункі тэрмінова выклікае на нараду. Усіх пасадзілі ў аўтобусы, прывезьлі ў Менск да мэтро і сказалі, што цяпер гэта іхнае месца працы. Аднаму рабочаму, якому засталося два гады да пэнсіі, пагражалі скарачэньнем, калі той адмовіцца ехаць у камандзіроўку ў Менск. Думаю, некаторыя пагналіся за доўгім рублём, які так настойліва рэкламавалі па тэлевізары. Потым ім сорамна было глядзець нам у вочы, бо зразумелі, што выконваюць ролю штрэйкбрэхераў. І атрымалі за яе па паўтары мільёны.

**В.Каркотка:** Ім выдалі пасьведчаньні машыністаў мэтро. Нас навучалі гэтай прафэсіі па 9 месяцаў, неаднаразова прымалі іспыты, праводзілі інструктажы, мэдкамісіі. Прычым, кожны з нас нейкі час адпрацаваў на чыгунцы. А “навічкоў” навучылі за тры гадзіны. Як машыніст-інструктар заяўляю, што гэта немагчыма. Гэта ж патэнцыйныя забойцы.

Звольненыя мэтрапалітэнаўцы падалі на адміністрацыю заявы ў суд за незаконнае звальненьне. Але ці можна спадзявацца на аб'ектыўнасьць нашых судоў?

**Я.Трацьцяк, машыніст:** Ніякай аб'ектыўнасьці няма. У любой нармальнай краіне людзей не арыштоўваюць без усялякіх санкцыяў на трое сутак, а судзьдзі не прыбаўляюць яшчэ па 10—15 сутак. Суды ў нас прадажныя.

Усе мае суразмоўцы пагадзіліся на тым, што ўлады, душачы страйк, надта стараліся запалохаць астатніх. Цяпер будуць ведаць, што іх чакаюць арышты, звальненьні, беспрацоўе, беззаконьне. Словам — працуй, бяры тое, што даюць і маўчы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



СІМ

**На здымку: менскі мэр Уладзімер Ярмошын уручае машыністам з Воршы, Баранавічаў і Масквы грашовыя прэміі і каштоўныя падарункі. Потым далі слова аднаму з узнагароджаных:** ***“Мы пришли помочь метрополитеновцам, которые заб.., заб.., заблудились. Мы переступили через свою рабочую... м-м-м, короче, мы помогли товарищам, которые заблудились”.***

# За кітайскім мурам нам не ўратавацца

**Як рухаюцца эканамічныя рэформы ў посткамуністычных краінах Усходняй Эўропы? Гэтай вельмі надзённай для Беларусі праблеме быў прысьвечаны сэмінар, які правёў у Горадні 25—26 жніўня менскі Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных досьледаў. Апрача эканамістаў, на сэмінар былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовых уладаў і партыйныя функцыянэры ад БНФ да ПКБ.**

## Рай для карупцыянэраў

Самым вядомым сярод удзельнікаў меўся быць наш галоўны банкір С.Багданкевіч, аднак напярэдадні яму давялося адбыць у Вашынгтон. Ягоную пазіцыю давялося выкласьці дарадчыку В.Дашкевічу (кандыдату эканамічных навук). На думку апошняга, галоўным вынікам 1992—95 гг. было ўтварэньне ў Беларусі сітуацыі, пры якой сталі незваротнымі "рынкавыя пераўтварэньні на падставе прыватнай уласнасьці". Калі Беларусь захавае свой сувэрэнітэт, рэфармаваньне эканомікі працягнецца, не зважаючы нават на нежаданьне ўладаў, якія змогуць толькі замарудзіць працэс. Чым, зрэшты, усе гэтыя гады яны і займаліся.

Сп.Дашкевіч лічыць немагчымым для нас "кітайскі шлях" у эканоміцы, гэтак прывабны для кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Кітайцы грунтуюць сваю эканамічную мадэль на выключнай ролі адной партыі і адмове нават ад мінімума дэмакратыі. У нас жа, не без іроніі зазначыў ён, такой партыі ўжо няма.

Выступоўца ў свой час браў удзел у складаньні г.зв. "антыкрызіснай" праграмы прэзідэнта. Па яго словах, яна рабілася "сьпехам і абы-як", і, нагул, усе ўрадавыя праграмы ў галіне эканомікі былі "безсэнсоўнымі ад самага пачатку".

Што датычыць яшчэ нядаўна гучна рэкламаванай барацьбы з карупцыяй, дык яна мае пераважна палітычныя, а не эканамічныя мэты. Рэч у тым, што чым большы ўзровень дзяржаўнай уласнасьці і яе ўдзел у эканоміцы, тым лепшая глеба для прадажнасьці чыноўнікаў. Адзінае выйсьце — разьдзяржаўленьне, прыватызацыя, якія ў нас, на жаль, усяляк тармозяцца вышэйшым кіраўніцтвам.

## Залаты запас

Валютныя актывы нашай краіны роўныя 507 мільёнам даляраў і 2кг 885г золата. Дарэчы, нядаўна яны былі значна меншыя. Тым часам мы маем замежных пазыкаў на 1,92 мільярда даляраў, па якіх давядзецца неўзабаве выплаціць немалыя працэнты — 160 мільёнаў даляраў.

Сам С.Багданкевіч (зыходзячы з ягоных тэзісаў, прадстаўленых на сэмінары) мяркуе, што аніводная з чатырох частак антыкрызіснай праграмы не была выканана цалкам, а стабілізацыя нашай грашовай адзінкі не мае надзейнага грунту. Прафэсар Багданкевіч робіць выснову: "Вышэйшыя эшалоны ўлады не зусім разумеюць вытокі крызісу беларускай эканомікі, ня маюць канкрэтных, этапных мэтаў і задач у эканамічным развіцьці", а таксама не ўяўляюць новую ролю дзяржавы ў гэтай справе.

Ён зазначае, што "папулізм палітыкаў і непрафэсіяналізм кіраўнікоў прывёў да таптаньня на месцы, марнаваньня рэсурсаў і часу" і "люмпэн-папулісцкая практыка ўжо ўступіла ў супярэчаньне з законамі эканамічнага развіцьця".

Старшыня Нацбанку прапануе сваю "антыкрызісную" праграму. Адзначу толькі тры ейныя моманты. Падатковыя зборы павінны дасягаць максімум 30—35% ад прыбыткаў. За год з лішкам недзяржаўны сэктар трэба павялічыць у эканоміцы мінімум да 50%. Улады не павінны ўмешвацца ў справы прадпрыемстваў — дзяржаўных або прыватных, апроч выпадкаў, прадугледжаных законам. Але за гэтае ўмяшальніцтва яны павінны несьці матар'яльную адказнасьць.

С.Багданкевіч перакананы, што за 5 гадоў сапраўдных рэформаў рэальныя прыбыткі тых, хто працуе, маглі б дасягнуць 5—6 тыс. даляраў у год.

## Замест Бальцаровіча — Дэн Сяопін?

Самы плённы вопыт эканамічных рэформаў, ажыцьцёўленых у посткамуністычнай краіне, у нас побач — у суседняй Польшчы. Іхны аўтар — Л.Бальцаровіч — прыязджаў нават у Менск. Аднак нашае кіраўніцтва, як вядома, цягне ў далёкі Кітай, да партыйнага рэфарматара, старога і нямоглага сёньня, Дэн Сяопіна. Першым візітам А.Лукашэнкі ў далёкае замежжа была якраз паездка ў КНР.

Л.Злотнікаў, кандыдат эканамічных навук, які ўдзельнічаў у сэмінары, лічыць, што для беларускай бюракратыі "кітайскі шлях" прывабны, паколькі ён захоўвае за ёю пануючае становішча ў грамадзтве, а камандныя вышыні — у руках дзяржавы. Адначасова бюракратыя ператвараецца ў новую буржуазію. Хто ж адмовіцца ад такога добраахвотна?

Сп.Злотнікаў пераканаўча даводзіць, што кітайцы расчараваліся ў сваёй "кітайскай мадэлі", пры якой пераважае дзяржсэктар. Высокія затраты і кепская якасьць прадукцыі (пра што мы таксама добра ведаем) змушаюць іх пераходзіць да рынкавых адносінаў у эканоміцы... Калі ж чынавенства захавае за сабой уладу і ўласнасьць (і ў Кітаі, і ў нас), рэформы расьцягнуцца на дзесяцігодзьдзі — паводле "лацінаамэрыканскага" варыянту.

Зыходзячы з неэфэктыўнасьці кітайскай і беларускай эканомікаў, сп.Злотнікаў лічыць развіцьцё гандлёвых сувязяў паміж нашымі краінамі беспэрспэктыўнымі. "Гэтая сітуацыя, — адзначае ён, — аналагічная той, што была ў 1990г., калі Кебіч і Назарбаеў прадавалі адзін аднаму збожжа, трактары. У жніўні 1995г. дзяржчыноўнікі КНР і РБ таксама вырашылі, што менавіта будуць прадаваць адна адной дзьве краіны. Відавочна, што гандаль па цэнах, вышэйшых за сусьветныя, ня пойдзе. А гандляваць па сусьветных — гэта сабе на страту. Таму цяпер Беларусь купляе збожжа ў ЗША, а не ў Казахстане". Гандляваць увогуле павінны бізнэсмэны, а не палітыкі.

Сп.Злотнікаў таксама падкрэсьліў, што на шляху да эфэктыўнай эканомікі Кітай значна адстае ад нашых суседзяў і нават ад нас саміх, а таму нам няма чаму навучыцца ў кітайцаў. Як кажуць, ягоныя б словы — ды "богу" ў вушы...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# У чыноўнікаў зьявілася нагода наведаць Пэкін

**Беларускія жанчыны нарэшце могуць быць спакойнымі за свой нялёгкі лёс: вырашаць іхныя праблемы ўзяўся дарадца прэзідэнта, адстаўны палкоўнік С.Посахаў.**

Менавіта яго адкамандзіравалі ў Пэкін на 4-ю Міжнародную жаночую канфэрэнцыю, якая пройдзе пад эгідай ААН і пачнецца 4 верасьня. Разам з ім паедуць у Кітай віцэ-прэм'ер Ул.Русакевіч і намесьнік старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Ул.Гетманчук. Каб мужчынам не было вельмі сумна ў далёкай азіяцкай краіне, у склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі для раўнавагі ўключылі трох жанчын.

Адначасова ў Пэкіне будзе праходзіць Сусьветны форум недзяржаўных жаночых арганізацыяў. Удзел у ім будзе прымаць старшыня Беларускага жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Людміла Пеціна. У інтэрвію карэспандэнту СВАБОДЫ яна, у прыватнасьці, адзначыла: "Сусьветная грамадзкасьць надае вялікае значэньне гэтай канфэрэнцыі. Удзел у ёй прымуць звыш за 30 тысяч дэлегатак, якія распрацуюць і прымуць агульную платформу дзеяньняў, накіраваных на паляпшэньне становішча жанчын. Аднак наша дзяржава ня вельмі імкнецца рэальна палепшыць становішча жанчын. Тры гады таму быў створаны камітэт па падрыхтоўцы да пэкінскай канфэрэнцыі з 16 чалавек. У яго склад увайшлі 11 мужчын з ліку высокапастаўленых дзяржаўных чыноўнікаў. Яны рыхтавалі нейкія праграмы, праводзілі "круглыя сталы", але ўсё гэта адбывалася за зачыненымі дзьвярыма. Рабілася гэта таму, што праграмы існавалі толькі на паперы. Для канкрэтнага вырашэньня праблем у дзяржавы, як заўсёды, няма грошай. Тым ня менш, справаздачы перад ААН і іншымі міжнароднымі арганізацыямі заўсёды рабіліся акуратна. Беларусь такім чынам падтрымлівала імідж дэмакратычнай краіны — маўляў, у нас усё добра і праблемы вырашаюцца".

Людміла Пеціна таксама нагадала, што ў 1993г. Савет міністраў прыняў пастанову аб "паляпшэньні становішча жанчын" і нібыта былі выдзеленыя грошы з бюджэту. Аднак гэтая пастанова засталася голай дэкларацыяй і згубілася недзе ў міністэрскіх кабінэтах.

"Вось і цяпер у нас не атрымалася адзінай нацыянальнай дэлегацыі на пэкінскі форум, — гаворыць Людміла Пеціна. — Мы ня толькі не знаёмыя з праграмай членаў дэлегацыі, але нават ня будзем ведаць адзін аднаго ў твар".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Новая хваля русіфікацыі

**Сёлета ў Горадні захаваецца, напэўна, толькі адна цалкам беларуская школа. Што датычыць першых класаў, дык беларускіх сярод іх будзе ўсяго каля чвэрці.**

Напачатку беларусізацыя школы ў нас распачалася вельмі актыўна (у параўнаньні з іншымі гарадамі краіны), бо яе падтрымалі гарадзкія ўлады. Дэпутаты гарсавету, напрыклад, прагаласавалі за тое, каб 3/4 усіх школаў былі беларускамоўнымі. І адукацыйная праграма дакладна выконвалася да самага рэфэрэндуму.

Пасьля рэфэрэндуму адразу пачалася новая хваля русіфікацыі. У шмат якіх беларускіх школах бацькам першакласьнікаў падсоўвалі ў якасьці ўзору заяву ў расейскі клас. Прычым прымалі заявы абыякавыя і нават варожа настроеныя да беларушчыны людзі. Прызвычаеныя да пакорлівасьці, з неразьвітым пачуцьцём нацыянальнай годнасьці, бацькі выконвалі тое, што ім гаварылі.

У выніку, у Ленінскім раёне горада ў беларускія школы толькі 29% заяваў было пададзена на беларускамоўнае навучаньне, а ў Кастрычніцкім — усяго 16%.

Што датычыць прыхільнікаў беларускай школы, дык яны пасьля рэфэрэндуму доўга адчувалі разгубленасьць. Толькі ў жніўні пачалі хадзіць па кватэрах ды агітаваць бацькоў перапісаць заявы, аддаць сваіх дзяцей у беларускія класы. Вельмі многія згаджаліся, але далёка ня ўсе сабраліся схадзіць у школу, каб перапісаць свае заявы.

Вельмі разумна зрабілі муж і жонка Таперчыні, дарэчы, пэнсіянэры. Яны ня проста агітавалі, а прапаноўвалі бацькам узор заявы ў беларускі клас. У адной са школаў ім нават удалося дамагчыся, каб замест аднаго беларускага і двух расейскіх класаў стала колькасна наадварот. Заявы перапісалі нават расеец, украінец і немец. Адмаўляліся толькі адзінкі, сярод якіх была і адна настаўніца беларускай мовы з 16-й школы...

Напярэдадні навучальнага года сітуацыя найлепш выглядала ў чатырох школах: 5-й (93 заявы ў беларускія класы, 2 — у расейскія), 7-й (119—45), 21-й (117—46), 32-й (130—88). На жаль, цалкам на расейскую мову пачалі пераводзіць некаторыя 2—4 беларускія класы. У старэйшых класах, аднак, гэтага ня хочуць самі настаўнікі, якія ўжо прызвычаіліся выкладаць па-беларуску.

Каб ратаваць сітуацыю, у горадзе ўтварыўся бацькоўскі камітэт беларускіх класаў. Зварот да бацькоў прынялі грамадзкія дзеячы Горадні. Яго таксама падпісаў старшыня аблсавету С.Домаш.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Настаўнікі ідуць у афіцыянты

**Дэфіцыт настаўнікаў замежных моваў у Наваполацку хутка значна павялічыцца.**

Рэч у тым, што ў бліжэйшы час у горадзе пачне працаваць трохзорны гатэль, адміністрацыя якога абвесьціла конкурс на набор пэрсаналу. Галоўнае патрабаваньне — веданьне замежнае мовы. На 90 месцаў атрымана больш за 300 заяваў. Сярод канкурсантаў пераважаюць настаўнікі, лекары, інжынэры.

**Васіль КРОКВА**

# Нямецкае сьмецьце карыстаецца попытам у Беларусі

На ўскраіне Менска знаходзіцца невялікі офіс з трыма служачымі і некалькімі тэлефонамі. Адсюль прадаюцца аўтамабільныя шыны: новыя — са Злучаных Штатаў і карыстаныя — з Нямеччыны.

Нямецкія ўжываныя шыны каштуюць тут ад 10 да 15 дойчэмарак. Іх пастаўляе адна нямецкая фірма, назва якой захоўваецца служачымі ў сакрэце. Бізнэс разгортваецца ў "шэрай" зоне эўрапейскага права. Напрыклад, паводле нямецкіх законаў ужываныя шыны лічацца адыходамі (гэта значыць — сьмецьцем), таму іхні экспарт па Базэльскай канвэнцыі забаронены. Аднак беларускія ўлады не перашкаджаюць ўвозу гэтага хламу, бо рэдка які беларус можа дазволіць сабе купіць новыя шыны.

"Ня ўсё, што для немцаў сьмецьце, зьяўляецца сьмецьцем для нас", — лічыць Вячаслаў Алешка, віцэ-дырэктар Беларускага навукова-дасьледчага экалагічнага цэнтру, былы намесьнік міністра па экалогіі, які адказвае за імпарт сьмецьця. Інакш кажучы: альбо дазваляць увоз сьмецьця як імпарт старых шынаў, альбо абыходзіцца нагогул без аніякіх шынаў. Гэткі ж прынцып распаўсюджваецца на іншыя імпарты ў "шэрай" зоне паміж "другаснай сыравінай" і сьмецьцем.

Сярод экспэртаў Беларусь лічыцца краінай з вельмі жорсткімі правіламі на ўвоз адыходаў, але адначасова вельмі лібэральнай у выкананьні гэтых правілаў. За апошнія гады здаралася так, што нават тым менскім фірмам, якія мелі дазвол ад беларускіх уладаў на імпарт заходняга сьмецьця, польскія ўстановы адмаўлялі прапускаць гэтыя грузы праз сваю тэрыторыю. Напрыклад, у канцы 1993г. на нямецкай мяжы быў арыштаваны груз з масцікай, у якой ужо некалькі гадоў таму прайшоў тэрмін годнасьці.

Груз адправіла хімічная кампанія з Ольдэнбурга, атрымаць яго павінна была фірма "Виво" ў Менску. Па названым адрасе ў сталіцы знаходзіцца толькі маленькая кватэра ў жылым блоку... Паводле даведак польскіх інстанцый, пад экспартэрам хаваецца вядомы гандляр сьмецьцем Харм Зібрандс, імя якога ўжо трапляла на старонкі газэт з прычыны нелегальных паставак атрутнага сьмецьця ў Заходнюю Украіну. Незадоўга да гэтага Зібрандс прад'явіў польскім установам дазвол беларускага Камітэта па экалогіі на пастаўку 140 тонаў фарбы, растваральнікаў, лакаў, бітумаў і чысьцячых сродкаў. Супраць дазволу выступала нямецкае Міністэрства аховы навакольнага асяродзьдзя. У беларускія ўстановы транспарт з названым грузам да сёньняшняга дня ня трапіў.

Лібэральныя беларускі правілы робяць Рэспубліку Беларусь прыцягальнай для заходніх гандляроў сьмецьцем. Пасьля таго як Польшча, а таксама краіны Балтыі ды Украіна зачынілі свае межы для заходняга экспарту сьмецьця, ахоўнікі навакольнага асяродзьдзя адзначаюць павелічэньне прытоку сьмецьця ў Беларусь і далей на Ўсход. Для Беларусі імпарт заходніх адыходаў зьяўляецца нават прыцягальным (асабліва, калі іх можна ўжыць яшчэ раз). Краіна ня мае амаль ніякай сыравіны, таму другасная сыравіна пажаданая нават тады, калі пры яе перапрацоўцы застаюцца адыходы. Гэтым карыстаюцца гандляры сьмецьцем. Андрэас Вэрышторф, экспэрт Greenpeace па пытаньнях экспарту сьмецьця гаворыць, што "схема падману гандляроў сьмецьцем заўсёды аднолькавая: яны прапануюць тэхналогію пазбаўленьня ад сьмецьця і яшчэ на стадыі планаваньня пастаўляюць шмат атрутнага сьмецьця на месца, каб прымусіць партнэра чакаць нявызначаны час абяцанага спэцыяльнага абсталяваньня для зьнішчэньня сьмецьця". Менавіта так гэта адбывалася на многіх беларускіх фірмах. У адным выпадку нямецкія ўстановы арыштавалі транспарт яшчэ на мяжы і ўзбудзілі сьледзтва супраць нямецкіх спэкулянтаў. У другім выпадку беларуская фірма адправіла назад вялікую частку грузу (14 000 тонаў пластмасавых адыходаў). Але 30 тонаў усё ж-такі засталіся ў Беларусі.

**Клаўс БАХМАН,**
**нямецкі журналіст**

# Што пішуць пра нас на Захадзе

**"Прэзідэнт Лукашэнка практычна ня верыць у эканамічныя і палітычныя рэформы", — артыкул пад такім загалоўкам апублікавала ўплывовая нямецкая газэта *Frankfurter Allgemeine Zeitung.***

Аўтар артыкула — прафэсар усходнеэўрапейскай гісторыі Гамбургскага ўнівэрсітэту Франк Скальжэўскі — адзначае, што "заклікі з боку Нямеччыны да рынучных рэформаў запазьніліся. Лукашэнка хавае адсутнасьць хоць нейкага руху за ўсё новымі і новымі субсідыямі ў канцэрны, структура якіх сфармаваная ў старой савецкай эканоміцы".

У артыкуле адзначаецца, што "Беларусь ніколі не імкнулася стварыць уласны нацыянальны твар і цяпер знаходзіцца на шляху назад да саюзу з Расеяй". Аўтар таксама крытыкуе імкненьне Лукашэнкі сканцэнтраваць у сваіх руках усю ўладу.

# Будучыня належыць незадаволеным

## Пад уражаньнем ад выставы найноўшай электроннай тэхнікі ў Бэрліне

Дэвіз "Будучыня належыць незадаволеным", які я вынес у загаловак гэтага артыкула, узяты са стэндаў кампаніі Philips на выставе ў Бэрліне, дзе на мінулым тыдні звыш за 700 вытворцаў прадстаўлялі сваю аўдыё, відэа і іншую электронную прадукцыю. Фірмы, вядома, па-рознаму дамагаліся ўвагі гасьцей выставы, у тым ліку і рознымі лозунгамі спрабавалі "дастукацца" да сэрцаў пакупнікоў. Я спэцыяльна запісваў гэтыя лозунгі і высьветліў, што часьцей за ўсё кампаніі выкарыстоўвалі слова "будучыня". Прасьцей за іншых зрабіла карэйская Sanyo, якая заявіла, што шлях у будучыню — гэта шлях разам з Sanyo. Але якой будзе гэтая будучыня, паўднёвыя карэйцы не казалі, і менавіта таму сьціплае філіпсаўскае "будучыня належыць незадаволеным" мяне ўразіла куды больш. Тым, што мяне быццам запэўнілі: маёй будучыня будзе настолькі, наколькі я незадаволены сёньняшнім днём, наколькі імкнуся зрабіць яго лепшым, наколькі я здольны дасягнуць гэтае мэты.

Але пагадзіцеся, тут мы падыходзім да велізарнай праблемы: наш грамадзкі сьветапогляд пабудавалі такім чынам, што крытычны настрой у ім займае нейкую нэгатыўную нішу. Той, хто незадаволены, у нас заўсёды церпіць страты. Вучань, які выказаў нязгоду з настаўніцай, атрымае, самае малое, двойку для прафілактыкі — "каб не выступаў". Падначалены, які крытычна выказаўся ў бок кіраўніка, асуджаны на звальненьне ці разьвітаньне з кар'ерай. Палітык, які крытычна ацэньвае сітуацыю ў краіне — экстрэміст і г.д. Атрымліваецца, што ў нас больш камфортна адчувае сябе той, хто ўсім задаволены, нават калі ён стаіць па вушы ў г...

Вядома, што для нейкай міфічнай "стабільнасьці" гэта ня кепска, але для разьвіцьця грамадзтва — тупік. Калі б усе былі задаволеныя сьвечкамі, ніколі б Эдысон не вынайшаў сваю лямпачку! І гэтак далей. Скажуць: незадаволенасьць пачынаецца ад гультайства, ныюць тыя, хто ня любіць працаваць... У пэўным сэнсе, канечне, правільна. Толькі лайдак мог дадумацца замацаваць выключальнік на сьцяне, працавіты кожны раз лазіў бы выкручваць лямпачку. Але менавіта такія гультаі сваімі вынаходніцтвамі і зьмянілі за нейкае стагодзьдзе ўсё жыцьцё чалавецтва — зрабілі яго больш камфортным, прыстасаваным да новых патрабаваньняў.

Тое ж самае павінна адбыцца ня толькі з лямпачкамі, відыкамі — кожная новая мадэль лепшая за папярэднюю — але і з мадэлямі грамадзка-палітычнага жыцьця. Чым далей, тым мадэль павінна быць лепшай. Кепскае пазнаецца праз крытыку і адвяргаецца ў выніку палітычнай барацьбы. Ці гэта дрэнна?

"Кепска!" — зноў і зноў кажа чарговая група, якая атрымлівае ў нас уладу. "Крытыка павінна быць канструктыўнай", — тлумачаць яны, не разумеючы, што тым самым пярэчаць самі сабе, бо крытыка ня можа быць канструктыўнай, як ня можа быць такім масла, хлеб ці паветра. Вы зьелі хлеб, дыхнулі паветрам — вось і будзе нейкі канкрэтны вынік. Ня зьелі — нічога не атрымаецца, будзь той хлеб белым ці чорным, будзь яго бохан альбо толькі скібачка.

Незадаволенасьць дае імпульс да працы, але не сізіфаваму перацягваньню камянёў, а працы накіраванай на пэўны вынік. І ён абавязкова будзе. Хто адвяргае крытыку, хто адвяргае незадаволенасьць як неабходную для разьвіцьця функцыю, той ніколі не атрымае добрага выніку. Дастаткова параўнаць дасягненьні Захаду з нашым рэгрэсам, каб у гэтым не сумнявацца.

### Лепшыя рэчы — лепшае жыцьцё

Зусім ня мы самі вызначаем нашае жыцьцё, а тыя рэчы, якія нас абслугоўваюць. Зламаўся аўтобус — мы спазьніліся на працу, не зрабілі нешта важнае, палаяліся з кіраўніцтвам, якое адмовілася накіраваць нас за мяжу на стажыроўку — мы не набылі новых ведаў, так і не сталі пэрспэктыўным "кадрам". І цягнуць нам далей да пэнсіі на пасадзе малодшага намесьніка сярэдняга памагатага... Калі задумацца, згадаць сваё жыцьцё, то кожны з нас такіх "ланцужкоў" можа скласьці шмат. І будзе мець рацыю. Як у Карнея Чукоўскага: рэчы помсьцяць нам за тое, што мы пра іх не клапоцімся.

Але мэта ня ў тым, каб толькі выціраць іх анучай ад пылу. Сваё жыцьцё трэба палепшыць, робячы лепшымі рэчы навакол.Калі ўсё стане крышачку лепшым, тады, і толькі тады жыцьцё стане больш удалым. Аўтобус не зламаўся — вы своечасова даехалі да працы, у вас цудоўны настрой, вас наведала добрая ідэя, вы прапанавалі яе кіраўніцтву, кіраўніцтва адкрыла ад зьдзіўленьня рот, вас прыкмецілі, вы хутка ўзначаліце аддзел, вы станеце добра зарабляць! Чорт вазьмі, вамі пачне ганарыцца жонка!!! Уяўляеце, што пачнецца, калі такі імпульс даць усяму грамадзтву?

Каб тое, што я кажу не падалося байкай ці пустой фантазіяй, нагадаю ўбачанае на бэрлінскай выставе. Хутка тэлеэкраны будуць іншага фармату: у прапорцыі 16 на 9. Аказваецца, такі выцягнуты экран лепш успрымаецца нашым зрокам, які працуе ў гарызантальным рэжыме. Здавалася б, дробязь, але яна абернецца тым, што чалавек каля экрану будзе менш стамляцца, захавае ўвагу, уратуе вочы. У наступным стагодзьдзі, калі людзі будуць праводзіць палову свайго жыцьцёвага часу каля экранаў тэлевізараў, дысплеяў, кампутараў, гэты крок ацэняць як вызначальны для лёсу чалавецтва. Вядома, у пэўным сэнсе. Вядома, за паляпшэньне сваёй долі чалавецтву давядзецца заплаціць: пераход на новы фармат экранаў запатрабуе стратаў. Але ў параўнаньні з пераходам на новую дзяржаўную сімволіку Беларусі гэтая трансфармацыя ўжо будзе не павялічваць, а памяншаць колькасьць праблемаў. І гэта толькі адзіны прыклад. Мы, у Беларусі, вымушаныя акружаць сябе рэчамі, якія нам не падабаюцца, у іх,за нашай мяжой, — такіх рэчаў становіцца ўсё менш. Вось яна — якасьць жыцьця. Стан здароўя. Пачуцьцё годнасьці і сэнс гадоў, якія бягуць і бягуць, прыносячы каму адныя расчараваньні, а каму і задавальненьне.

Let's make things better, — пад такім лозунгам прапанаваў працаваць кіраўнік Philips'а сп.Цімэр. Паказальна, што гэтыя словы можна перакласьці і як "давайце рабіць лепшыя рэчы", і як "давайце лепш рабіць рэчы", і як "давайце лепшым рабіць усё нашае жыцьцё"...

### Лепш давайце рабіць!

Пакуль, на жаль, з гуманнага лозунгу галандца Цімэра мы можам скарыстаць толькі такі "апэндыкс": "лепш давайце рабіць!". Не ўдалося "запусьціць" прадпрыемствы рэформамі, якіх не было, дык давайце прымусім рабочых працаваць. І прымушаюць: дырэктарам загадалі не скарачаць колькасьць рабочых, даляру загадалі стаяць на месцы (хаця менавіта за валюту набывае наш экспартэр камплектуючыя для сваёй прадукцыі, якая ўсё даражэе), інвэстфондам загадалі не пачынаць працаваць на эканоміку, фондаваму рынку загадалі не нараджацца ўвогуле.Той жа "Інтэграл" мог бы закласьці ў банку свае "цэхі-ангары", каб узяць крэдыты ды абнавіць тэхналогію, якой ужо больш за 20 гадоў. Дык немагчыма ж! Прымушаюць працаваць — хоць на склад.

Красамоўны прыклад такой палітыкі — наш славуты "Гарызонт", якому ўжо наўрад ці падняцца з каленяў. "Кебічаўскія" крэдыты "Гарызонт" праеў, новых ніхто не дае, прадукцыя ўсё больш адстае ад сучасных патрабаваньняў, рабочыя жывуць тым, што крадуць дэталі ды робяць у хатах "самапалы". Пачытайце калонкі аб'яваў у газэтах — там яны ўсе, нашыя перадавікі-тэлезборшчыкі, "залатыя рукі". А "залатыя мазгі" ўцякаюць за мяжу ці проста пераходзяць на іншыя заробкі. Як сьцьвярджаюць дасьведчаныя людзі, інтэлектуальны патэнцыял "Гарызонта" згублены больш як на палову, а тыя вынаходнікі , якія засталіся, варацца ва ўласным саку, вынаходзяць ровары.

Няма чаго казаць, што ў Бэрліне нашага "Гарызонта" і блізка не было. Ды і што б ён там выставіў побач з той жа 28-й мадэльлю Philips, прызнанай у 1995 г. лепшай, а цяпер ужо дэманструецца яе шырокафарматная вэрсія!

Канечне, можна падняць мытныя пошліны, пасьля чаго кошт тэхнікі, якая карыстаецца попытам ва ўсім сьвеце, стане ўдвая вышэйшым за заводзкую цану. Што ў нас і зрабілі. Але хто выйграў ад таго, што нашага сярэдняга пакупніка адрэзалі ад якасных рэчаў і прымушаюць карыстаюцца "дерьмом", няхай і зробленым дома? "Гарызонт" выйграў? Нешта ня бачна гэтага выйгрышу. У такіх "спрыяльных" умовах ня тое што на заходні рынак ня выйдзеш, але і свой канчаткова згубіш.

Рэчы, што вакол нас, робяць нас саміх такімі ж. Мы застаемся той жа якасьці, што і гэтыя рэчы.Прабачце, але гэта такая нізкая якасьць, што мы нават не разумеем сэнс слоў Let's make things better.

Але ўсё-ж такі: Let's make things better!

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Дачнікі

Маем на ўвазе зусім ня чэхаўскі тып дачніка, калі сярод садоў, насычаных пахамі бэзу і чаромхі, прагульваліся млявыя паненкі і іхныя рэспэктабэльныя кавалеры.

Маё журналісцкае натхненьне акрыляе энтузіязм сучаснага беларускага "гома дачнікуса", які штурмуе кожныя выходныя з вёдрамі і торбамі прыгарадныя электрычкі.

### Нам сонца ня трэба, нам дача сьвеціць

Што робіць дача з людзьмі? Чаму індывід, атрымаўшы свае соткі, становіцца зусім іншым чалавекам? Што прымушае людзей зарабляць на градах рэўматызм, нэрвовыя зрывы, зьнявечаныя пустазельлем рукі?

Ідэалогія дачніка ўнікальная па сваёй прастаце і па сутнасьці складаецца з аднае сакрамэнтальнай фразы: "Рабіць трэба!" "Гома дачнікус" упэўнены, што адпачываць на ўчастку проста непрыстойна, і імкнецца давесьці гэта ўсім сваім сваякам і знаёмым. Няшчасныя пяць сотак засланілі для большасьці іхніх уладароў усё астатняе жыцьцё —тэатры, кіно, прагулкі з дзецьмі на выходных, выезды "на прыроду" засталіся недзе там, у далёкім "перададачным" жыцьці. Дачны фанатызм авалодаў прадстаўнікамі самых розных сацыяльных групаў — яму аднолькава падуладныя міністры і рабочыя, журналісты і інжынэры.

Дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што адпачываць на ўчастках немагчыма і па чыста аб'ектыўных прычынах. Садова-агародныя калоніі апошніх гадоў называюць "дачнымі гарадкамі" чыста па недарэчнасьці, бо па сутнасьці — гэта купкі абы-як панатыканых пасярод поля домікаў. Аб якім-небудзь кінатэатры, танцах ды іншым не даводзіцца і марыць. Бліжэйшы культурны цэнтар — прыгарадная электрычка. Да таго ж многія ставяць дачы, "нягледзячы ні на што" — інакш кажучы, ня маючы ні машыны, ні грошай. Ды і на самім участку няма дзе нават прылегчы, бо кожны лічыць справай гонару не пакінуць на зямлі аніводнага "чыстага" месца. Першапачатковая ідэя дачы — месца для загарадняга адпачынку — даўно дыскрэдытаваная і завісла горкай насьмешкай над панурымі сучаснымі "садаводамі-аматарамі".

### Вялікая сацыялістычная дывэрсія?

Часам складваецца невынішчальнае ўражаньне, што прышчапленьне нашым людзям дачнага наркотыку было ажыцьцёўлена камуністычнымі ўладамі наўмысна з мэтай пагашэньня палітычнай актыўнасьці насельніцтва. Па сутнасьці, з пункту гледжаньня нармальнага жыцьця, нашы дачы адразу выдаюць сваю непаўнацэннасьць. Жыць там, акрамя некалькіх летніх месяцаў, фактычна немагчыма, бо ацяпленьня, гарачае вады ды іншых "зручнасьцяў" не існуе. Між іншым, з вышыні сёньняшніх рэалій дачы не ўяўляюць вялікай матар'яльнай каштоўнасьці — бедным яны не па кішэні, а багатыя ставяць сабе катэджы. (Дадамо, што ў 80-я гады давалі звычайна па 4--5 сотак, і былі сур'ёзныя абмежаваньні пры пабудове дома — так што цяпер за такую дачу з такім участкам цяжка дастаць нават 2--3 тысячы даляраў). Для адпачынку, як я ўжо казаў вышэй, ніякіх умоваў таксама няма. Фактычна застаецца толькі адно — працаваць, робячы вялікую паслугу нашай калгаснай сельскай гаспадарцы.

Сапраўды, рукамі дачнікаў улады вырашаюць харчовую праблему, адсоўваючы на няпэўны тэрмін рэфармаваньне калгаснага ладу. У той час як у цывілізаваным сьвеце сельскай гаспадаркай займаюцца 6--10 працэнтаў насельніцтва і без праблемаў кормяць свае (ды іншыя) краіны, у нас з улікам дачнікаў у працэс здабычы ежы ўключаны амаль кожны другі жыхар Беларусі.

Ёсьць нешта ўбога-сацыялістычнае ў дачным шаленстве — немагчыма ўявіць сабе заходнюю сям'ю, якая ўвесь свой ўік-энд корпаецца на гародзе. Ды што заходняя — нават у нашых былых братоў па "лагеры" каля домікаў убачыш толькі прыгожы кветнік, максімум — сад альбо вінаграднік. Прынамсі, у Чэхіі і Вугоршчыне гародаў каля дамоў амаль ня знойдзеш. Па сутнасьці, наша дачапаклонніцтва зьяўляецца настолькі ўнікальнай рэччу, што замежнікі яго нават не перакладаюць. Так і пішуць — dacha. Ну не назавеш жа гэта вілай ці загарадным домам?!

### Новае пакаленьне... не выбірае дачу

Народжанаму ў горадзе маладому чалавеку не зразумець зацятасьці сваіх "старых". Большасьць сёньняшніх гараджан Беларусі — былыя сяляне альбо дзеці сялян, і зямля для іх з часу ўсіх голадаў і войнаў генэтычна ўяўляецца амаль адзінай карміцелькай. Маладыя ўжо глядзяць на яе без залішняга місьціцызму — як на сродак вытворчасьці і прадмет куплі-продажу.

Да таго ж сучасных маладых зусім не спакушае магчымасьць прысьвяціць градам усе выходныя ў той час, калі існуе процьма нашмат больш цікавых і карысных заняткаў. "Я за гэты час зараблю намнога больш за ўсе вашыя памідоры", — канфлікт пакаленьняў праяўляецца часам у такой своеасаблівай форме. Перад "дзецьмі" надта выразна паўстае прыклад "бацькоў" з іхнімі балячкамі, скандаламі і страчанымі адпачынкамі, што назаўжды адбівае жаданьне мець калі-небудзь уласны гарод. Увогуле, новае пакаленьне дачамі фактычна не цікавіцца, аднязначна бярэ курс на катэджы.

### Кожнаму трэба чым-небудзь ганарыцца...

Тлумачэньне "дачнага фэномэну" знайсьці, на маю думку, ня вельмі складана. Садовы ўчастак — гэта савецкі сурагат (г.зн. няпоўны, недастатковы заменьнік) прыватнай уласнасьці, якую нашы людзі пакуль што пераважна ня маюць. Калі назіраеш за добраахвотнымі вязьнямі "дачных папраўчых установаў", то хочацца сьмяяцца ў твар тым, хто заяўляе, нібыта наш народ ня ўмее працаваць. На гародах высьвятляецца, што многія з нас — самыя сапраўдныя "працаголікі", тут знаходзіць выйсьце ўласьцівая нашаму народу надзвычайная энэргія — тое, што называюць дружыльнасьцю.

Пры гэтым, на маю думку, існуе відавочная заканамернасьць — самымі зацятымі, безагляднымі "гома дачнікусамі" становяцца тыя, каму не ўдалося значна праявіць сябе ў чым-небудзь іншым. Толькі тут, на дачы, яны маюць магчымасьць рэальна памацаць канкрэтны плён сваёй працы, праявіць свой творчы падыход, параўнаць з суседзямі свой талент. Урэшце чалавеку трэба чым-небудзь ганарыцца: альбо сваёй апошняй аповесьцю, альбо ўдалай угодай на мільён даляраў, альбо лепшым на ўсім узгорку ўраджаем сліў. Жыцьцёвы досьвед перакanaў мяне, што большасьць людзей, якія рэальна занятыя любімай справай, ставяцца да "дачнага прыгону" даволі індыфірэнтна. Дарэчы, каля шыкоўных катэджаў, якія абляпілі наваколле нашых гарадоў, амаль немагчыма знайсьці хоць які-небудзь намёк на агароды — багатым яны непатрэбныя.

Канешне, многія "гома дачнікусы" сталі такімі не ад добрага жыцьця — іх выштурхнулі ў абдымкі гарода нашыя цэны. І натуральна, што для пэнсіянэраў дача зьяўляецца лепшым прыкладаньнем іхняй жыцьцёвай актыўнасьці. Але я ніколі не зразумею працаздольных людзей, якія заяўляюць, што аддаюцца агароду "ад беднасьці". Вядома ж, праца на трох работах, гандаль на рынку альбо паездкі на Захад за аўтамабілямі ў нас не шануюцца, затое корпаньне на градах зьяўляецца самым пачэсным заняткам.

Гордыя словы беларускіх гаспадынь "са свайго гароду!" маюць, відаць, асаблівы сэнс у грамадзтве, дзе пераважная большасьць людзей ня могуць сказаць "са сваёй крамы!"

**Віталь АСІПОВІЧ**

# Улады вырашылі, што бібліятэка ў вёсцы непатрэбная

**Прэзідэнцкі ўказ аб скарачэньні кіруючых кадраў у сфэры культуры, адукацыі і аховы здароўя, выдадзены сёлета 12 ліпеня, прывядзе да закрыцьця на вёсцы большасьці культурных установаў.**

Пад скарачэньне трапляюць людзі, пасада якіх пачынаецца словам "загадчык". У райвыканкамах вырашылі скараціць, напрыклад, загадчыкаў сельскіх бібліятэк і клубаў. Але рэч у тым, што ў гэтых клубах і бібліятэках іншых супрацоўнікаў, акрамя загадчыкаў, даўно ўжо няма. Аклады ў іх сёньня вельмі невялікія, ня кажучы ўжо пра тое, што большасьць загадчыкаў сельскіх клубаў працуюць толькі на палову стаўкі. І кожны з іх, як той казаў, і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц, бо апрач сваіх, ім даводзіцца выконваць абавязкі музычных кіраўнікоў і нават прыбіральшчыкаў.

А можа і сапраўды непатрэбныя вясковыя бібліятэкі, у якіх няма грошай, каб купіць новыя кнігі ды падпісацца на газэты? Раённыя аддзелы культуры атрымліваюць мізэрныя грошы, на якія можна набыць хіба толькі клавішы для баяна. Цяжка і самім вяскоўцам. Большасьць з іх ужо ня можа падпісацца на прэсу. Шмат дзе пазачыняліся пабытовыя пункты, дзіцячыя сады, якія калгасы больш ня ў стане ўтрымліваць, нават паштовыя аддзяленьні. Цяпер ня стане клубаў і бібліятэк. **С.А.**

# У заапарку голадна

**Адзіны на ўсю Беларусь заапарк знаходзіцца, як вядома, у Горадні. Там працуе каля 50 чалавек, якія зарабляюць мізэрныя грошы (рабочым — ад 110 да 200 тыс. рублёў, службоўцы маюць крыху больш). Абласны абкам работнікаў культуры разам з дырэкцыяй заапарку накіравалі ліст прэм'ер-міністру М.Чыгіру, у якім просяць дапамогі.**

Заснаваны ў 1927 годзе, заапарк мае сёньня больш за 3000 экзэмпляраў з 280-ці відаў жывёльнага сьвету з усіх кантынэнтаў. Утрымаць і пракарміць такую колькасьць экзатычных жывёлаў, птушак, паўзуноў і рыб вельмі цяжка. Аднак заапарк больш як на 40% акупляе сябе.

Супрацоўнікі заапарка пакутуюць ад бюракратычных мэтамарфозаў. З аднаго боку ім скасавалі прэміі, бо іхная арганізацыя — бюджэтная. З другога боку, яна часткова самаакупная, таму пасады і прафэсіі супрацоўнікаў ня ўнесеныя ў сьпіс тых, каму належыць аплата за стаж працы. У выніку гэтага, людзі ня могуць разьлічыцца за жыльлё, падрыхтаваць дзяцей да школы, некаторыя фактычна галадаюць. У калектыве, між іншым, ёсьць мнагадзетныя сем'і (некаторыя маюць па 6—10 дзяцей). Праца ў заапарку цяжкая, небясьпечная. Паспрабуй накармі тыгра, дагледзі кракадзіла або вымый слана... Работнікі заапарка патрабуюць ад прэм'ер-міністра павысіць зарплату.

**А.А.**

# Што рабіць з мядзьведзіцай?

**Вядомы магілёўскі прадпрымальнік А.Аношкін, уладальнік гандлёвай фірмы і казіно, выступіў з ініцыятывай стварэньня гарадзкога заапарку.**

Ён нават ужо набыў мядзьведзіцу. Але пакуль ні гарадзкія ўлады, ні калегі-камэрсанты не падтрымалі ініцыятывы сп.Аношкіна. Цяпер прадпрымальнік думае, што рабіць з мядзьведзіцай.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

Сергей ДУБАВЕЦ

# ВАРЯГИ

*... И тогда Лукашенко изгнал из президентского дворца местных правителей и пригласил на их должности заморских специалистов — полковников и контрразведчиков всяких, а также других местных, обиженных разумом и карьерой. Они же, неблагодарные, потом его самого и сгубили...*

*Евангелие от лукавого*

## МЕСТНЫЕ И СОЮЗНЫЕ

Еще в советские времена в каждом республиканском ЦК негласно соперничали представители двух политических ориентаций: местнической и всесоюзной. Первые обеспечивали "фасад" национальной республики, продвигали "своих", по-отечески увещевали ершистых националистов. Вторые проводили политику обезличивания и унификации, ожидая повышения куда-нибудь в Свердловск и вели себя словно армейские политруки. Первых отличала близость к интеллигенции, предчувствие того, что есть ценности более вечные, чем марксизм-ленинизм, а также способность "оттаивать" в окружении своих деревенских свояков. Вторые обладали либо пролетарским (всесоюзным) либо юдофобским ("истинно-русским") сознанием и либо сходу "решали" сложные гуманитарные вопросы, либо брезгливо отмахивались от них. Впоследствии, уже при Горбачеве, из первых созрели гроздья национал-коммунизма, тогда как вторые скорее разобщались, не чувствуя угрозы господству собственного типа власти.

Развал СССР стал победой объединенных первых над разобщенными вторыми. Вторые бросились хаотично инспирировать какие-то интерфронты, но было уже поздно. И когда национал-коммунисты Прибалтики, Молдовы, Закавказья приступили к созданию независимых государств, Беларусь превратилась в отстойник поверженных там интерфронтов. Все эти нашкодившие "у себя" рижские и виленские омоны, изгнанные гэбисты, профессоры-пропагандисты, секретари ЦК, масса рядовых "интеров" — оказались у нас.

Здесь эта мутная волна органично влилась в поток мигрантов из всего бывшего союза, поток, в котором можно разглядеть то черноволосые банды кавказских мафиози, то тюбетейки большой семьи таджикских беженцев, не имеющих права на белорусское гражданство, но упорно осваивающих выселенные чернобыльские территории; то седые стрижки армейских пенсионеров, традиционно любящих селиться в нашей тихой заводи (а не там, откуда призывались), то плеши молодых дельцов от политики, бизнеса и безопасности. Последние — прибывшие "из СССР" гэбисты — особенно полюбились президенту Лукашенко. Именно эти люди и стали сегодня формировать новую белорусскую элиту.

Почему у нас произошло не то, что у всех? Потому что ко времени развала СССР национал-коммунисты в Беларуси не успели объединиться, как, впрочем, не возникло и никакого интерфронта. Но время шло, и пока наши разрозненные национальные силы надрывали голоса в парламенте, так и не выкричав гарантий независимости, маятник истории пошел в обратном направлении, работая уже снова на коммунистов и панславистов, подхватывая и раздувая микрогрупы типа "Белой России". То есть с приходом Лукашенко у нас произошел обратный процесс — победа укрупненного за счет других республик интерфронта над невызревшим национальным движением, над национал-коммунистами.

Из новой власти выпали бывшие компартийные функционеры — шеф МИД Кравченко, представитель Беларуси в ООН, а затем замминистра культуры Буравкин, посол в Польше Таразевич... Уже несколько лет готовится к отставке и.о. министра культуры Бутэвич. Не вписываются в новый пошиб власти председатель Нацбанка Богданкевич и премьер-министр Чигирь. Стоит вспомнить и ближайших соратников Лукашенко в его президентской кампании, которых уже нет рядом с ним — Булахов, Федута, Гончар... От оставшейся команды всех названных отличает либо интеллигентность, либо "здешнее" происхождение, а также то, что их биографии известны журналистам.

За всеми этими произошедшими и предполагаемыми уходами отчетливо просматривается система отбора, принципы соответствия. На смену "ушельцам" приходят люди либо приезжие, либо по сути своей всесоюзные, ничьи.

Из местных Лукашенко оставляет либо тех, кто очевидно глупее его, либо ожесточенных белорусоедов и русотяпов. Приезжие могут быть и поумнее президента, но сравнение в этом случае представляется некорректным. Он — пригласивший хозяин.

Новый групповой портрет будет выглядеть так: среди нескольких бывших штирлицев в центре — один "из местных" Александр Лукашенко. Серым фоном — невыразительные лица каких-то аборигенов. Интерьера нет и не может быть. Нет адреса, нет страны. Всё условно.

***Если в одном месте и в один час собрать всех политиков, ушедших из властных структур за время правления А.Лукашенко, — получится вполне однородный групповой портрет — наглядная иллюстрация того, что в Беларуси происходит не только смена правящих элит, но и формирование совершенно иного типа власти.***

Между прочим, на примере кадровой политики отчетливо виден основной принцип деятельности президента (не архитектора-стратега, но рефлекторного тактика): исходить из объективных процессов. Формируемая им власть действительно вполне соответствует той бесконтрольной демографической стихии, которая захлестнула Беларусь. Лукашенко пробует воплотить в жизнь собственный популистский лозунг о народе как субъекте политики. Звучит, конечно, хорошо, но ведь по сути это — буквально воспринятый перевод латинского слова "демократия" — не значит ровным счетом ничего, кроме абсолютной стихии. И если вся роль власти сводится лишь к обузданию неудобных перехлестов этой стихии, а не к строительству хоть какого-нибудь государства и сообщества, то стихия в конце концов сожрет "объективно" порожденную ею власть. На то она и стихия.

Начав как человек, "избранный большинством", Лукашенко вынужден постоянно сужать это свое "большинство", из которого выпадают то "националистическое отребье", то директоры заводов, то свободные профсоюзы... Уже в ситуации с забастовкой на метро президент фактически заявил, что смотрит на народ жестко избирательно. Все, кто заявляет о своих правах или о несогласии с ним — не его народ.

На смену местным в команду Лукашенко приходят небелорусы. На этом не следовало бы акцентировать внимание (у нас действительно все нации равны), если бы все эти Посоховы, Заметалины, Латыповы, Акуловы, пишущие для президента "его слова", не занимали откровенно антибелорусскую позицию.

## КОЛЛАБОРАНТЫ И ОККУПАНТЫ

В советские времена существовали неписанные правила "фасада" национальной республики. Например, первым секретарем должен был быть белорус, так или иначе финансировалась национальная культура, народным поэтом Беларуси не мог стать русскоязычный... И хоть за "фасадом" шла интенсивная руссификация (в городах не осталось ни одной белорусской школы), неписанные правила сдерживали наступление счастливой годины слияния всех и вся "в едином русском море". Теперь же, когда "фасад" разрушен вместе со своими правилами и на пост министра культуры прочат то ли артиста Гостюхина, то ли профессора Акулова, у нас непременно появятся народные русскоязычные поэты типа Бронислава Спринчана, особенно усердствующего сегодня на ниве агитпропа. (Интересно, правда, как на это отреагирует московская литературная пресса.)

Смена элит вызвана сменой самого знака власти. С точки зрения стандартной терминологии реального национального государства (будь то большая Франция или маленькая Эстония) национал-коммунисты были коллаборантами, сотрудничали на своих постах с марионеточной администрацией. Можно, конечно, "усложнять" понятия (мол, был ли бэсэсэровский режим марионеточным или только лишь "не совсем самостоятельным" и т.д.), но в конечном счете это ни к чему не приведет. Национальное государство — либо есть, либо его нет. Для половинчатых форм и придумана стандартная терминология — режим марионеточный, колониальный, оккупационный... Специфических белорусских форм коллаборантства или независимости не может быть точно так же, как не может быть, например, белорусских прав человека. Права человека либо есть, либо их нет, по общим для всех признакам.

Так вот, сегодня наши национал-коммунисты теряют свои посты, а на их место приходят фактические (по общепринятым признакам) оккупанты. Для безусловно циничных национал-коммунистов переход в новую элиту — это последний барьер цинизма, требующий полного отречения от своих самых сокровенных национальных чаяний. Вот почему не полезли на этот барьер ни Таразевич, ни Буравкин. Вот почему никак не взберется по нему бывший инструктор ЦК Бутэвич, зависший между собственной человеческой природой и номенклатурным расчетом. С другой стороны, легко взяли этот барьер вернувшийся из Москвы бывший завотделом ЦК Антонович и отчаявшийся получить звание народного писателя Чигринов. Эти — уже в пропагандистской обойме президента. Интерфронт победил.

В такой ситуации сотрудничество с властью, не оставляющей шансов для тайных намерений, теряет смысл. Коллаборантство становится невозможным. По крайней мере в таких размерах, чтобы воссоздать национальный офицоз — привычный бэсэсэровский "фасад". А для возведения какого-то иного "фасада" какой-то иной Беларуси у власти нового типа нет ни мировоззренческого посыла, ни своих коллаборантов, ни элементарного желания. У "всесоюзных" людей совершенно иные интересы, жертвой которых на каком-то этапе станет и сам президент Лукашенко, от которого так же потребуется восхождение на барьер цинизма, — тогда, когда придется выбирать между воплощением в жизнь наработок своего окружения (той же юдофобии, например) и собственным креслом, стоящим на имидже "человека из народа", так как народу глубоко чужды фундаментальные расистские идеи.

Этот всенародный избранник еще что-то говорит о белорусской мове и даже на белорусской мове, он еще идет к гробу народного поэта Максима Танка... Но что там, у гроба, будет делать Урал Латыпов? Или Титенков? Или Заметалин?..

## БАРЬЕР ЦИНИЗМА

Итак, Лукашенко погибнет от цинизма собственого окружения. Возможно, могильщиком президента станет опытный в таких делах полковник Заметалин, человек ниоткуда, ближайший сотрудник Кебича в его борьбе за президентство против Лукашенко, а сегодня — ближайший человек Лукашенко. Именно Заметалин стал в белорусской политике символом цинизма новой власти: нет ничего постоянного и святого, есть только выгода маневра, все покупается и продается.

Избиение депутатов ВС, антибелорусский референдум, изорванный Титенковым белорусский национальный флаг, мальчики для мусульманского гостя, демонстративное награждение штрейкбрехеров в метро... Перед нашими глазами выстраивается целая антология циничных деяний, способных вызвать отвращение к политике вообще. Однако попробуем понять, что же движет властью нового типа, от которой сегодня зависит судьба нашей страны и нас самих.

К сожалению, нынешняя "свобода печати" в Беларуси не позволяет журналисту собрать "объективки" новой элиты и вычислить общий процент приезжих, "интеров" и гэбистов, втихаря сохраняющих российское гражданство. Но нет сомнения, что это именно для их спокойной жизни закупается в центре Минска "элитарное" жилье, именно для них тотально русифицируются белорусские школы и проводятся референдумы за сближение с их бывшей родиной. Молодые саратовские и челябинские службисты, мыслившие свое восхождение в непосредственной связи со всесоюзной ротацией, именно эту ротацию подразумевают под сохранением связей и интеграцией с Россией. В самом деле, кому еще у нас так уж необходимы открытая восточная граница или двойное гражданство? Только двум категориям жителей: делающим на востоке либо свой частный бизнес, либо "всесоюзную" карьеру. И те и другие ничем не привязаны к нашей земле, а значит не несут никакой ответственности за ее будущее. Тем не менее, именно такие люди сегодня у нас — власть.

И это не пустые слова. После открытия восточной границы прошло уже достаточно времени, чтобы убедиться: ни предприятиям, ни колхозам, ни государству эти двери без звонка ничего, кроме убытков, не дали. Потому что проблема "разорванных экономических связей" лежит не в плоскости границ и уничтожения атрибутов собственной государственности, а в плоскости реформ, которые в Беларуси не только отстали от российских, но и двинулись вспять. Теперь становится более понятно, чьи интересы в результате референдума удовлетворились вполне. Это интересы власти нового типа.

## "ПЕРСПЕКТИВА"

Когда остатки национал-коммунистов окончательно сползут с барьера цинизма вниз и интерфронтовская (оккупационная) власть стабилизируется полностью, то уже в ней самой обозначится разделение на два лагеря и начнутся разборки между приверженцами СССР (пролетарскими интернационалистами) и радетелями великой империи (панславистами, основной лозунг которых: "Бей жидов и коммунистов!"). Раскол пройдет посредине сегодняшнего симбиоза обоих этих направлений — по Лукашенко. Расизм и российский монархизм (Джохар Дудаев объединил эти два понятия в одно — "россизм") станут его непреодолимым барьером цинизма, и Лукашенко исчезнет, вычеркнутый из политики варягами, которых сам же и пригласил. После этого начнется властная чехарда всех этих Заметалиных, Титенковых, Латыповых — по типичному латиноамериканскому сценарию бесконечных малозначительных переворотов и переделов власти между мелкими группками полковников-хунтарей за право "посидеть". Если не произойдет открытого внешнего вмешательства, то именно так будет выглядеть сценарий на завтра, который сегодня пишет власть нового пошиба.

Забастовщики будут разбегаться при виде тяжелых машин, груженых омоном. Оппозиционеры будут час от часу убирать свои помещения после очередных погромов. Все остальные будут есть бананы...

